# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 45 5 лістапада 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2291) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


*ЗА БЯЗ'ЯДЗЕРНУЮ БЕЛАРУСЬ*

## КАБ НЕ ЎПАЛА ЗНОЎКУ ЗОРКА СМЕРЦІ ПАЛЫН

**(З Беларуска-амерыканскай канферэнцыі «Міжнародная бяспека і нераспаўсюджванне ядзернай зброі»)**

Добрымі намерамі выбрукавана дарога ў пекла... Людская думка падняла «атамную» навуку і тэхніку на самую высокую прыступку дасканаласці. Аднак падатлівая да лепкі і бяссільна-маўклівая ў карыслівых руках палітыкаў, яна ж і паставіла чалавецтва перад глабальнай праблемай сучаснасці, перад вялікім парадоксам. На адным баку яго— добрыя намеры: «мірны атам» як танная крыніца магутнай энергіі, развіццё гаспадаркі, прагрэс. На другім — дарога ў пекла: стварэнне зброі, якая па камандзе «Пуск» і пры націсканні кнопкі здольна знішчыць жыццё на блакітнай планеце. На кожную жывую душу ўжо нарыхтавана некалькі тон смяротнай узрыўчаткі. А колькасць прызапашаных у ваенных арсеналах бомбаў адпавядае колькасці гарадоў, у якіх жыве, задыхаючыся ад экалагічнага ўдушша, гэтая і без таго ледзьве жывая душа. А то беларусам якраз такой агітацыі і павучэнняў і нестае! Быццам бы нейкае абстрактнае чалавецтва, а не мы збіваем костачкі на нагах аб кавалкі стронцыя і цэзія на вуліцах. Вачамі, зацярушанымі радыяцыйным попелам, страхам і асуджанасцю, глядзіць у будучыя адзін-два гады, што нясуць яму выбух усемагчымых захворванняў.

Ды насуперак логіцы быцця, жудасна-паказальнаму вопыту Хірасімы і Нагасакі, Чарнобыля, няўмольна павялічваецца колькасць дзяржаў — членаў «ракетна-ядзернага клуба», якія, чаго б тое ні каштавала, прагнуць выраблять пякельную зброю і валодаць ёю. Як і тых, хто ўпарта імкнецца пераступіць яго (клуба) «запаветны» парог. Цяпер нават спецыялістам цяжка сказаць дакладна, колькі ж ядзерных дзяржаў існуе. Патэнцыяльнымі ўладальнікамі атамнай бомбы могуць быць Ізраіль, Пакістан, ЮАР, Іран, Ірак, Паўночная Карэя, Аргенціна, Бразілія і іншыя. Правялі ці праводзяць ядзерныя выпрабаванні былы СССР, ЗША, КНР, Вялікабрытанія, Францыя, Індыя. Валоданне ядзернымі мускуламі і кулаком, пальцы якога, чым гусцей абвешаны пярсцёнкамі-боегалоўкамі, тым прэстыжней, па-ранейшаму з'яўляецца казырнай картай у сусветнай палітычнай гульні. А гандаль імі — даходнейшая справа. Стрымаць распаўзанне па зямлі самай разбуральнай сілы прызваны Дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі 1968 года. Ён, як і іншыя згаданыя вышэй тэмы, абмяркоўваўся на міжнароднай канферэнцыі, якая праходзіла ў сярэдзіне кастрычніка ў Мінску. Яе арганізатарамі і спонсарамі выступілі Беларускі камітэт абароны міру, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, Мінскі дзяржпедінстытут замежных моў, Цэнтр па даследаванню праблем вайны і міру і сродкаў масавай інфармацыі, Нью-Йоркскі універсітэт, Монтэрэйскі інстытут міжнародных даследаванняў. У абмеркаваннях удзельнічалі вядомыя вучоныя, дыпламаты і юрысты ЗША як асноўныя дакладчыкі, журналісты і спецыялісты-эксперты з Рэспублікі Беларусь і Расіі.

Неабходнасць правядзення канферэнцыі абумоўлівалася некалькімі прычынамі. Фармальна дагавор падлягае прадаўжэнню ў 1995 годзе і прыйшла пара вырашаць, на які тэрмін. ЗША і Расія прытрымліваюцца палітыкі цэнтраліза-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

### ПРЭМ'ЕРА КУПАЛАЎЦАЎ



У пачатку новага тэатральнага сезона на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера спектакля «Звон — не малітва» па п'есе Івана Чыгрынава. Пісьменніка, як і многіх беларусаў, хвалюе сёння мінуўшчына, якімі былі нашы продкі і што пакінулі нам ў спадчыну. Рэцэнзія на спектакль «Забіць — лёгка, цяжэй — зразумець» змешчана на 6-й стар. Фота Віктара СТАВЕРА.

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

## ПАВЯЗУ ТРЫВОГУ І НАДЗЕЮ

ГАЛІНА ФРЭДЖ з'явілася на парозе рэдакцыі і вымавіла звычайныя словы, якія за лета нам даводзіцца чуць многа-многа разоў: «Зайшла падзякаваць за «Голас Радзімы». Мне адразу прыгадалася яе пісьмо, якое мы надрукавалі гады два назад: было яно на найчысцейшай беларускай мове, напісанае прыгожым почыркам настаўніка. Яшчэ ўрэзаліся словы: «Было нялёгка працаваць, а яшчэ больш крыўдна, калі трэцяя частка вучняў пакідала клас па той прычыне, што беларускую мову не разумее і вывучаць не жадае».

Але мы з Галінай вядзём гутарку па-руску. Размаўляць свабодна на беларускай мове, не падбіраючы ў галаве кожнае слова, каб пабудаваць адпаведны сказ і дакладна выказаць думку, ёй ужо цяжка. У апраўданне можна спаслацца на час: 18 гадоў мінула, калі Галя Ралёнак выйшла замуж за выпускніка Беларускага політэхнічнага інстытута Тахара Фрэджа і, скончыўшы філфак БДУ, паехала да яго ў Туніс. З той пары яна на Беларусі — рэдкі госць, які наязджае ў сваю родную вёску Беразіно (у Докшыцкім раёне) раз на 2—4 гады. Можна прывесці ў апраўданне адсутнасць беларускага асяроддзя ў той мясцовасці, дзе жыве Галіна — толькі дзве зямлячкі з Мінска, астатнія маладыя жанчыны з Расіі, а найболей — з Украіны, са Львоўшчыны.

— Добра беларусам у Польшчы, — гаворыць Галіна Фрэдж, — яны жывуць разам, а такім адзіночкам, як я, раскіданым па свеце, цяжка захаваць сваю мову. Пісаць я яшчэ магу, але над кожным словам б'юся, ламаю галаву. Летам, калі прыязджаю сюды, я б з найвялікшым задавальненнем пайшла на нейкія курсы беларускай мовы, калі б такія хто-небудзь арганізаваў. Нас жа такіх многа. Але нешта я не бачыла ў «Голасе Радзімы» аб'явы пра такія курсы.

Я згадаў пра Міжнародную школу беларускай мовы, літаратуры і культуры, што пару гадоў працуе ў Мінску, але не асмеліўся прапанаваць нашай зямлячцы з Туніса гэты варыянт. Школа платная, і хоць Галіна Фрэдж магла б заплаціць за навучанне — муж яе працуе ў кампаніі па здабычы фасфатаў і сям'я забяспечана добра, — ці па кішэні гэта іншым суайчыннікам? І наогул, ці маральна так ставіць пытанне, як яно ставіцца сёння ў незалежнай Беларусі — замежны зямляк наш мае валюту, хай плаціць за ўсё. А можа наадварот: дзяржава, Радзіма павінна распасціраць сваю апеку на беларускую дыяспару ў свеце і ва ўсім дапамагаць ёй? Дапамагаць шчодра і бескарысліва. Ды пакуль мы яшчэ да гэтага разумення нашых стасункаў з замежнымі суайчыннікамі не дажылі.

Вядома ж, нашых чытачоў прыводзіць у «Голас Радзімы» не толькі пачуццё ўдзячнасці, але і патрэба пашукаць парады, папрасіць дапамогі, проста расказаць пра ўсё, аб чым баліць душа. Здараецца, і нярэдка, што, пахадзіўшы па розных нашых установах, якія найчасцей адсылаюць замежнага суайчынніка адна да другой, ён прыходзіць у рэдакцыю (ці ў таварыства «Радзіма») як у апошнюю інстанцыю: яна павінна вырашыць усё, бо хто ж тады яшчэ можа дапамагчы.

Вось і ў Галіны Фрэдж свой клопат і свае турботы. І першнаперш — гэта праблема грамадзянства. Пакуль што ў такіх, як яна, у пашпарце запісана: «савецкае». Але Савецкага Саюза ўжо няма, то чые цяпер выхадцы з Беларусі? Не марнуючы часу, Галіна спешна пайшла ў наш АВІР. А там нейкі чыноўнік яе супакойвае: «Ну што вы хвалюецеся, я таксама — савецкі: яшчэ пашпарты ў нас не мянялі. Зрэшты, звяртайцеся ў пасольства. Якое ў вас там цяпер ёсць? Можа, украінскае?»

Беларускага ні консульства, ні пасольства ў Тунісе пакуль няма. Расійскаму ж ці ўкраінскаму навошта чужыя грамадзяне. Дык хто сёння абароніць інтарэсы і годнасць беларуса? Калі было савецкае пасольства, ведалі хоць, куды пайсці, да каго звярнуцца. Зрэшты, дачыненні нашых суайчыннікаў з пасольскімі чыноўнікамі былі не лепшымі.

У брэжнеўскія часы, калі шлюб савецкай грамадзянкі з іншаземцам выклікаў тут, у краіне, галаўны боль у цнатлівых сакратароў камітэтаў камсамола і савецкіх работнікаў, там, у нашых пасольствах за мяжой, да іх ставіліся насцярожана і падазрона. Прыйшла Галіна Фрэдж параіцца, што ёй рабіць: можа ўзяць тунісікае грамадзянства, там яна не абаронена законам. Не дай Бог, што з мужам здарыцца (а такіх выпадкаў было ўжо нямала сярод жанчын такога лёсу, як Галін), ёй, маці траіх дзяцей, нават ніякай спадчыны не атрымаць. Яна — ніхто ў чужой краіне.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РБ

## ВЯРТАННЕ ВАЙСКОЎЦАЎ

У сувязі з абвастрэннем ваенна-палітычнай сітуацыі ў радзе рэспублік Закаўказзя і Сярэдняй Азіі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў да 1 студзеня 1993 года адклікаць з рэспублік Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і Прыбалтыкі ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь, а таксама ваеннаслужачых, за якімі захоўваецца права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь, што выказалі жаданне праходзіць службу ў яе Узброеных Сілах, Унутраных і Пагранічных войсках або звольніцца ў запас з іх радоў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Тым ваеннаслужачым, якія маюць патрэбу ў жыллі, выдзяляюцца пазыкі на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў або кватэр у дамах жыллёва-будаўнічых кааператываў.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## БЫЦЬ АДУКАВАНЫМ І БАГАТЫМ

У Брэсце сабраліся вучоныя-педагогі і кіраўнікі народнай асветы большасці дзяржаў Садружнасці. Яны абмеркавалі актуальную і важную праблему: «Навучэнская моладзь і рынак».

Як вучыць з дзяцінства прыкладной эканоміцы і выхоўваць пры гэтым разумнага гаспадара жыцця — гэтыя і іншыя пытанні былі ў парадку дня работы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Абмеркаваны вострыя праблемы працаўладкавання выпускнікоў сярэдніх школ, тэхнікумаў і інстытутаў.

ЭКСПЕДЫЦЫЙНАЯ ФІРМА

## «МІРТРАНС»: БЕЛАРУСЬ, ПОЛЬШЧА І ДАЛЕЙ УСЮДЫ

Па дамоўленасці ўрадаў Польшчы і Беларусі створана Міжнародная экспедыцыйная фірма «Міртранс». Яе заснавальнікамі сталі ўпраўленні чыгунак двух краін, парты Гдыня і Гданьск, фірма «Белаграінгандаль». Экспедыцыйная фірма мае намер палепшыць таварныя перавозкі паміж нашымі краінамі, стварыць выгадныя ўмовы для транзітных перавозак праз тэрыторыі суседніх дзяржаў.

Цяпер, калі Беларусь атрымала прамы выхад да польскіх партоў Балтыйскага мора, змяншаецца наша залежнасць ад паўночных і паўднёвых суседзяў, з'яўляецца выгадны шлях для экспартна-імпартных перавозак. Акрамя таго, тарыфы «Міртранса» вельмі льготныя для нас, а работа фірмы садзейнічае далейшаму ўзаемадзеянню чыгуначнікаў, партавікоў і маракоў. Напрыклад, тэрмін бясплатнага захоўвання грузаў «Міртранса» ў польскіх партах складае трыццаць сутак, у Гамбургу толькі чацвёра...

Экспедыцыйная фірма «Міртранс» ужо пачала працаваць. Вывезены на экспарт 10 тысяч тон угнаенняў з Беларусі, а сюды дастаўлены кантэйнеры кітайскай фірмы, якая збіраецца адкрыць тут універмаг.

КАРЫСНЫЯ ВЫКАПНІ

## ХАЦЯ І МАЛА...

Даўняя мара беларускіх геолагаў — знайсці радовішча бурага вугалю, наяўнасць якога ў нетрах Брэстчыны прадказваюць вучоныя, збылася.

Слуцкай геолагаразведачнай экспедыцыі ўдалося выявіць на тэрыторыі Бярозаўскага, Драгічынскага і Пружанскага раёнаў «бурае золата», што знаходзіцца ў мелавых адкладаннях карставых варонак на глыбіні ад пяцідзесяці да ста метраў.

На жаль, выяўленыя запасы вугалю малыя і прамысловага значэння не маюць. Але дасследчыкі, якія атрымалі новыя каштоўныя даныя аб заканамернасцях размеркавання карысных выкапняў у заходніх раёнах рэспублікі, не трацяць надзеі на вялікі поспех.

МІНІ-ТРАКТАР



Першая сотня малагабарытных трактароў МТЗ-082 сабрана на Смаргонскім заводзе агрэгатаў. Магутнасць міні-машыны — 12 конскіх сіл. Трактар зручны пры рабоце ў садах, на агародзе. Прызначаны ён для арандатараў і фермераў. Праўда, толькі для тых, хто мае тоўсты кашалёк, таму што цана навінкі — 230 тысяч рублёў.

НА ЗДЫМКУ: старшы майстар участка зборкі трактароў Уладзімір ХАЙНАК дэманструе навінку.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## НА ЛЯЧЭННЕ ДА ЗАВАДЧАН?

У пасёлку трактарабудаўнікоў адчыніць дзверы новая медыка-санітарная частка МТЗ на 850 наведвальнікаў.

Цяжка паверыць, але па прагнозах медыкаў у бліжэйшы час можа быць на 50 працэнтаў скарочана хірургічная дапамога хворым з-за адсутнасці пэўнага матэрыялу і іншых сродкаў. А аперацыі будуць рабіцца толькі ў экстранных выпадках, калі пацыенту пагражае смерць; на 30 працэнтаў будуць скарочаны самі лячэбныя ўстановы. У такіх умовах, паведаміў на сустрэчы з прафсаюзнымі актывістамі прадпрыемства галоўны ўрач МТЗ Аляксандр Шакуцін, будаўніцтва новай паліклінікі набывае асобае значэнне. Яна камплектуецца вядомымі ўрачамі рэспублікі, якія выказалі жаданне тут працаваць. Паліклініка будзе забяспечана сучасным медыцынскім абсталяваннем, закупленым заводам за мяжой.

СКВАПНАСЦЬ

## ЛЕДЗЬ НЕ ЗАГІНУЛІ ЗА МЕТАЛ...

Цудам засталіся жывымі пасажыры авіялайнера ТУ-154, што выконваў рэйс па маршруту Уладзівасток—Мінск. Самалёт не змог адарвацца ад узлётнай паласы і, перакочышыся за яе, зламаў шасі, разваліўся так, што заключэнне спецыялістаў адзінадушнае: аднаўленню не падлягае.

Прыбыўшыя на месца здарэння члены дзяржаўнай камісіі па расследаванню інцыдэнта былі ашаломлены колькасцю недапушчальных парушэнняў лётных інструкцый. Самалёт аказаўся перагружаны на восем тон, крэслы ў пярэднім салоне дэмантаваны, і ён ператвораны ў багажны адсек, пасажыры сядзелі, ляжалі на цюках неймаверных памераў...

Гэта быў чарговы «барахольны», гэта значыць, чартэрны рэйс Беларускага авіяўпраўлення з 62 турыстамі з Вільнюса. Ляталі яны ў Кітай за таварамі шырокага спажывання. Следчыя, якія вядуць узбуджаную па гэтаму факту крымінальную справу, лічаць, што дабіцца дэмантажу самалётнага абсталявання і перагрузкі яго можна было толькі за вялікі хабар.

ВЫСТАЎКІ



У Мінску прайшла выстаўка «Канверсія-92». Тут былі прадстаўлены тавары народнага спажывання, сродкі сувязі і інш. Сярод вырабаў было нямала навінак. Усяго паказалі сваю прадукцыю 37 прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь, якія прадставілі больш 1 000 узораў тавараў.

КАНТРАБАНДА

## СТРАШНЫ ГРУЗ

У Брэсце затрымана і абясшкоджана злачынная група, якая займалася перавозкай у Польшчу радыеактыўных рэчываў. Займаліся гэтым грамадзяне Расіі і Польшчы. Пры іх было знойдзена 2 кілаграмы 235 грамаў урана-238, які выкарыстоўваецца на атамных электрастанцыях. Як пацвердзілі спецыялісты, гэтае рэчыва можа быць крыніцай для атрымання ўрана-235 — асноўнага кампанента для вытворчасці атамных бомб.

Калі б кантрабанда ўдалася, то яна дала б злачынцам не менш 100 тысяч долараў.

Брэсцкае ўпраўленне КДБ, якое разблытала гэтае павуцінне, устанавіла, што радыеактыўныя рэчывы былі ўкрадзены на адным з заводаў Удмурціі. У выніку ўдала праведзенай аперацыі там былі арыштаваны яшчэ некалькі асоб, што мелі дачыненне да кантрабанды ўрану, і канфіскавана яшчэ каля 100 кілаграмаў небяспечнага радыеактыўнага рэчыва.

ГАСТРОЛІ

## НАШ ЧАЛАВЕК З ФРАНЦЫІ

Мінчане і госці горада цёпла прымалі аднаго з вядучых барытонаў Францыі Аркадзя Валадосця. Госць з Парыжа выконваў партыю Гразнога ў абноўленай Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета РБ оперы М. Рымскага-Корсакава «Царская нявеста». У час спектакля і пасля яго заканчэння ў зале неадназова гучала «брава». Спявак, ураджэнец Слонімскага раёна, вучыўся ў Белдзяржфілармоніі ў дацэнта С. Асколкава. Так склалася, што А. Валадосць закончваў кансерваторыю ў Ленінградзе, а 13 гадоў назад паехаў у Парыж.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ 340 слухачоў Акадэміі міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь прысягнулі на вернасць сваёй дзяржаве і яе народу. У іх ліку 150 выпускнікоў сярэдніх школ, якія сёлета паступілі ў Акадэмію міліцыі. Сярод залічаных на першы курс — 27 дзяўчат.

◆ Вярхоўны Савет Беларусі вырашыў абмеркаваць на сесіі, якая праходзіць цяпер, пытанне аб адмене пастановы ад 25 жніўня 1991 года, якою была прыпынена дзейнасць КПБ—КПСС і якая налічвала не маёмасць. За ўключэнне гэтага пытання ў парадак дня прагаласавалі 187 дэпутатаў. І не толькі былыя камуністы, а нават некаторыя прадстаўнікі БНФ.

◆ Нацыянальны Алімпійскі камітэт Беларусі падпісаў з НАК Расіі пагадненне, якое прадугледжвае двухбаковае супрацоўніцтва ў галіне спорту. Будуць арганізоўвацца сумесныя спартыўныя спаборніцтвы, узаемадапамога ў падрыхтоўцы, навуковым і медыцынскім абслугоўванні спартсменаў, вытворчасці інвентару і абсталявання. Аналагічныя пагадненні будуць заключаны з усімі дзяржавамі СНД.

◆ Вялікую папулярнасць набыў гандаль трунамі, паведамляе газета «Брэсцкі кур'ер». Прадпрымальныя гандляры вязуць гэты тавар у Польшчу, дзе кошт труны складае каля двух мільёнаў злотых.

◆ Распараджэннем старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі выдзелена 50 тысяч долараў ЗША на закупку імпартнай тэлевізійнай тэхнікі.

◆ Беларускі ўрад вырашыў рэарганізаваць Барысаўскі папярова-лесахімічны завод, выдзеліўшы з яго складу папяровую вытворчасць. На яго аснове будзе створана фабрыка Дзяржзнака Беларусі з правамі юрыдычнай асобы, якая стане друкаваць каштоўныя паперы і, магчыма, новыя беларускія грошы.

◆ За восем месяцаў гэтага года ў рэспубліцы 140 чалавек атрымалі харчовае атручэнне і адзін памёр ад ужывання заражоных таксінам батулізму прадуктаў. Такі сумны вынік ажыятажнай нарыхтоўкі кансерваў у чаканні галоднай зімы. Грэбуючы элементарнымі правіламі бяспекі і парадамі ўрачоў, гаспадыні кансервуюць нясвежыя, перасплелыя гародніну і фрукты, дрэнна прамытыя грыбы, няякасныя мясныя прадукты.

◆ У беларускай сталіцы знаходзіцца звыш 240 бежанцаў. У асноўным гэта рускамоўнае насельніцтва, якое эмігравала з Абхазіі, Таджыкістана і Прыднястроўя. Нягледзячы на параўнаўча невялікую колькасць бежанцаў, якія знайшлі прытулак у Мінску, праблем у гарадскіх улад больш чым дастаткова: прапіска, працаўладкаванне, забеспячэнне жыллём бежанцаў на тэрыторыі Беларусі. Пакуль большасць іх пражывае ў родных — пастаянных жыхароў Мінска.

КАБЕЛЬНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў МІНСКУ

# ЗАМЕСТ ХЛЕБА— ВІДОВІШЧЫ

**Кабельнае тэлебачанне ўвайшло ў наша жыццё нядаўна. Можа і тут мы выходзім на сусветны ўзровень, праўда, пакуль з адной праграмай, а не з 30—40, як за мяжой, але затое сваёй, роднай і, між іншым, першай. А рабіць у нас нешта першым — справа цяжкая: крытыкаваць кідаюцца ўсе і адразу, а шанаваць будуць тых, хто прыйдзе потым. Карацей кажучы, я прапаную вам інтэрв'ю з Пятром ЧАРНАМОРЦАМ, дэпутатам гарсавета, выканаўчым дырэктарам акцыянернага таварыства «Мінскае гарадское кабельнае тэлебачанне».**

**— Пётр Уладзіміравіч, як узнікла ідэя стварыць новы беларускі тэлевізійны канал!**

— Ва ўсіх буйных гарадах развітых краін свету існуюць кабельныя сістэмы прыёму і перадачы тэлевізійных праграм. Мы такой сістэмы не маем, хаця і прывыклі ў апошні час называць сябе еўрапейскім горадам. Не маем па многіх прычынах: з-за таго, што нашу дзяржаву доўгія гады задавальняла існаваўшая сістэма сродкаў масавай інфармацыі, з-за таго, што для стварэння новай сістэмы трэба многа грошай, а іх, асабліва сёння, не хапае. А нам карцела знайсці магчымасць даць людзям хутчэй новыя праграмы, і зрабіць гэта афіцыйным шляхам. Трэба сказаць, што наспела яшчэ адна праблема: некаторыя кааператывы і арганізацыі сталі займацца незаконным відэапаказам па кабельных сетках, якія былі пабудаваны за кошт горада. Горад выдзяляў сродкі на пракладку кабелю, а гэтым абсталяваннем, дзякуючы добрым адносінам з начальнікам ЖЭСа ці старшынёй кааператыва, карысталіся «відэапіраты». Яны прыходзілі ў дом, ставілі відэамагнітафон і пачыналі трансляцыю, збіраючы вялікія грошы. І для таго каб не проста забараніць гэта, а прыцягнуць парушальнікаў да супрацоўніцтва, мы вырашылі стварыць акцыянернае таварыства. Атрыманыя сродкі далі нам магчымасць адкрыць наш канал.

**— Але, наколькі я разумею, ініцыятарам стварэння новага тэлеканала быў гарвыканком!**

— Так, бо гарадскому выканаўчаму камітэту ўжо даўно быў неабходны свой сродак масавай інфармацыі, які б адлюстроўваў пазіцыю гарадскіх улад. Не сакрэт, што на сённяшні дзень пазіцыя гарадскога Савета часта адрозніваецца ад пазіцыі Вярхоўнага Савета, і таму трэба было знайсці свой сродак зносін з насельніцтвам. Нягледзячы на тое, што Рэспубліканскае тэлебачанне ў выпусках навін расказвае ў асноўным пра падзеі ў сталіцы, інтарэсы гарадскіх улад у гэтых праграмах не ўлічваюцца. Да таго ж адзіная інфармацыйная тэлевізійная сетка, якую мы будуем, дае значна лепшую якасць прыёму сігнала. Увогуле, многія тэхнічныя праблемы кабельным тэлебачаннем вырашаюцца не толькі прасцей, але і больш танна.

**— Мне здаецца, што вызначыць, цікавая перадача ці не, могуць толькі гледачы. Ці ёсць у вас зваротная сувязь з імі!**

— У час трансляцыі нашых праграм на тэлефоне дзяжурыць дыспетчар, і нумар нашага тэлефона пастаянна ўзнікае на экране. Так што кожны, хто захоча, зможа выказаць сваё меркаванне наконт нашых перадач.

**— Што новага чакае мінчан, якія маюць магчымасць глядзець ваш канал!**

— З верасня пачалі выходзіць выпускі тэатральных навін, навін культурнага жыцця сталіцы. Мы ўжо сёння цесна супрацоўнічаем з газетай мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў «Добры вечар», і наша супрацоўніцтва падаецца мне ўзаемавыгадным. Тым больш, што ў хуткім часе мы створым відэарубрыку газеты «Добры вечар», і калі рэдакцыя дасць на гэта згоду, то з нашай дапамогай хутка павялічыць свой тыраж, бо колькасць нашых абанентаў значна перавышае лік падпісчыкаў... Да таго ж мы можам перадаць інфармацыю амаль адразу, як толькі яе атрымаем. Сваімі перадачамі мы таксама прадугледжваем дапамогу праваахоўным органам і прадаставім ім магчымасць бясплатна выходзіць у эфір. На такіх жа ўмовах мы гатовы супрацоўнічаць з цэнтрам занятасці насельніцтва, і ўжо перадавалі іх інфармацыю. І вось што яшчэ мне абавязкова хацелася б падкрэсліць: мы ў сваёй рабоце ішлі, ідзём і будзем ісці толькі законным шляхам. Не палохае нас, што некаму не падабаецца, калі мы не даём амерыканскіх баевікоў з морам крыві ці эратычных праграм. «Відэапірацтва» не будзе. Дарэчы, у нас ужо ёсць афіцыйныя дагаворы на 24-гадзінную рэтрансляцыю праграм з амерыканскіх спадарожнікаў. Уладальнікі іх з разуменнем ставяцца да нашых праблем, ідуць на кантакт, афіцыйны дазвол на паказ іх праграм атрымаць зусім няцяжка.

**— У якую суму абыдзецца жыхарам Мінска задавальненне бачыць вашы перадачы!**

— Сёння карыстанне нашым каналам каштуе абаненту 35 рублёў у месяц. Згадзіцеся, што гэта не так ужо і многа — столькі зараз каштуе два разы схадзіць у кіно, а мы новыя фільмы паказваем амаль штодзённа. Адзін дзень у тыдзень мы адкрыты для ўсіх, незалежна ад таго, заплачаны грошы ці не, а ў астатнія дні сігнал кадзіруецца з дапамогай абсталявання, якое выпускае член нашага акцыянернага таварыства — вытворчае аб'яднанне «Гарызонт». Дарэчы, пры падключэнні новых раёнаў наш канал там некалькі месяцаў працуе бясплатна — людзі павінны ведаць, за што ім прапануюць плаціць грошы, якія пойдуць на далейшае развіццё канала. Наогул, можна сказаць, што наша асноўная мэта — быць карыснымі мінчанам. Калі з нашай дапамогай яны змогуць вырашыць свае праблемы, мы будзем рады. Як ні сумна гэта прызнаваць, але ў апошні час наша жыццё мяняецца толькі ў горшы бок. Цэны ўзнімаюцца, узровень жыцця зніжаецца, спажывецкая карзінка больш за ўсё нагадвае парваную авоську, праз дзіркі якой вывалілася ўсё, акрамя бохана чэрствага хлеба і бутэлькі кефіру... Я думаю, што ў святле ўсяго гэтага з'яўленне на экранах мінчан яшчэ адной тэлевізійнай праграмы будзе добрай весткай. Ды і 35 рублёў сёння грошы нейкія няпэўныя — хлеба на іх купіш, а на больш-менш прыстойнае відовішча ўжо не застанецца. А тут за іх — цэлы месяц фільмаў і цікавых праграм.

**Вераніка АНАТОЛЬЕВА.**

ІДУЦЬ ПОШУКІ РАССЫПНОГА ЗОЛАТА І БУРШТЫНУ



# ПАКУЛЬ ЁСЦЬ ТОЛЬКІ НАДЗЕЯ

На Беларусі знайшлі бурштын, потым золата. Гэтыя навіны хутка абляцелі ўсе газеты. Аб іх даведаліся за межамі рэспублікі, і адтуль (амерыканцы, у прыватнасці) прыязджалі і праяўлялі цікавасць да знаходак.

Сапраўды ідуць пошукі рассыпнога золата і бурштыну. Гэтым займаецца фірма Белгеа — Беларускае дзяржаўнае навукова-даследчае прадпрыемства. Яно з'яўляецца шматпрофільным і мае даччыныя фірмы і сумесныя прадпрыемствы.

Беларусі, як ніколі, сёння патрэбна і золата, і бурштын, і іншая каштоўная мінеральная сыравіна. Дэфіцыт валюты перашкаджае развіццю прамысловасці, медыцыны, культуры, не дае дзяржаве ўпэўнена падтрымліваць зносіны з развітымі краінамі.

Хочацца спадзявацца, што каштоўныя знаходкі неяк дапамогуць выправіць становішча.

Дарэчы, на Беларусі ўжо шукалі бурштын 15—20 год назад. Аднак гэта здавалася непатрэбным былому Саюзу. Пошукі спынілі. Зараз жа праяўленні бурштыну знойдзены на поўдні Беларусі. А на поўначы Украіны ёсць месцараджэнне бурштыну. Па праяўленнях можна зрабіць вывад, што беларускі бурштын лепшы за калінінградскі. Наш — 90 працэнтаў ювелірнай якасці, іх — 5 працэнтаў. Так што можна спадзявацца на свой бурштын.

А ці сведчаць вынікі пошукаў геолагаў пра існаванне радовішчаў рассыпнога золата? Гэта было галоўнае пытанне, з якім я звярнулася да аднаго з спецыялістаў фірмы Белгеа Юрыя Дзерывянкіна. Ён займаецца гэтымі праблемамі. Юрый Дзерывянкін паведаміў мне шмат чаго, пра што прэса не пісала.



Фірма шукае золата ў самых маладых адкладах. Каб зрабіць вывад аб існаванні месцараджэння золата ў паверхавых адкладах, неабходна доўгая работа. Трэба вывучыць агульныя заканамернасці размеркавання золата ў пародах і ацаніць знойдзеныя праяўленні.

Я запыталася ў Юрыя Дзерывянкіна:

— Скажыце, калі ласка, на якой стадыі знаходзіцца здабыча золата?

— Ідуць пошукавыя работы. Пра знаходжанне і перадачу золата ў прамысловасць можна будзе гаварыць толькі пасля папярэдняй і дэтальнай разведкі. Так што інфармацыя ў прэсе пра здабычу золата не адпавядае рэчаіснасці. Яшчэ хачу заўважыць, што работы вядуцца ў асноўным улетку. Зімой апрацоўваюцца рэзультаты пошукавых работ. Таму пра канчатковыя вынікі нашай працы мы даведаемся не раней наступнага года.

— Ці можаце вы сёння вызначыць колькасць золата?

— Я не вазьму на сябе адказнасць зрабіць заяву аб колькасці золата. Прырода — гэта загадка. На 100 праяўленняў можа быць адно месцараджэнне каштоўнага металу.

Усё сказанае, канешне, не сведчыць аб тым, што ў рэспубліцы не будзе свайго золата. Віталь Маскевіч, дырэктар Белгеа, сказаў на гэта: «Мы не займаліся б пошукамі, не маючы надзеі знайсці золата».

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: навуковыя супрацоўнікі лабараторыі фізікі зямлі Інстытута геахіміі і геафізікі АН Рэспублікі Беларусь Леанід МАСЦЮЛІН (справа), Юрый КУЗНЯЦОЎ і Валянцін АСТАПЕНКА абмяркоўваюць вынікі даследавання; будуць і беларускія алмазы!**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

# ПАГРОЗА ЗДАРОЎЮ НАЦЫІ

Савет Аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці звярнуўся ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з пасланнем, накіраваным супраць увядзення платных медыцынскіх паслуг, якія прапаноўваюцца ў праграме арганізацыйна-эканамічных дзеянняў, распрацаванай Міністэрствам аховы здароўя. Па ёй, у прыватнасці, плануецца ўвесці поўную аплату выдаваемых рэцэптурных бланкаў і іншых медыцынскіх дакументаў і частковую аплату — розных іншых паслуг, у тым ліку харчавання ў стацыянарах і лячэнне ў амбулаторна-паліклінічных установах. Савет прафсаюзаў лічыць, што гэтая праграма з'яўляецца, па сутнасці, антынароднай, выкліча негатыўныя з'явы ў здароўі нацыі і яе нельга прымаць, пакуль не стабілізуецца абстаноўка ў рэспубліцы. У пасланні таксама адзначаецца той факт, што па Закону аб бюджэце на 1992 год прадугледжвалася выдзеліць на патрэбы аховы здароўя 7,6 працэнта нацыянальнага даходу, а выдзелена фактычна менш за 4 працэнты.



Гэтая капліца (на здымку) у пасёлку Аркадзія, што пад Брэстам, узведзена ў 1870 годзе на месцы пакарання смерцю Афанасія Філіповіча, прылічанага праваслаўнай царквой да ліку святых. З часам тут будзе пабудаваны манастыр, а пакуль што размесціцца манаскі скіт.

Фота Р. КАБЯКА.

# КАБ НЕ ЎПАЛА ЗНОЎКУ ЗОРКА СМЕРЦІ ПАЛЫН

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

цыі ўсіх відаў ядзернага ўзбраення, выказваюцца за прыцягненне на арбіту дагавора як мага больш дзяржаў. Яго важнасць, а таксама вырашэнне праблематыкі кантролю над узбраеннем набываюць асаблівы сэнс, як адзначалі амаль што ўсе выступаючыя, у крызісных варунках, пры абвастрэнні напружанасці, эскалацыі міжэтнічных канфліктаў, грамадзянскай вайны на тэрыторыі былога Саюза. Абвальны распад СССР прывёў да ўзнікнення чатырох ядзерных дзяржаў і да цэлага комплексу складанейшых ваенна-палітычных, эканамічных вузлоў, чыёй сэрцавінай з'яўляецца лёс стратэгічных сіл і атамнай зброі.

Прафесар У. Потэр з Каліфорніі звярнуў увагу прысутных на некаторыя моманты новай сітуацыі. Напрыклад, на пагрозу ядзернага тэрарызму, магчымасць выкарыстання дзеючай у зоне канфлікту АЭС як аб'екта тэракта. Мае месца ўцечка радыеактыўных рэчываў і ад'езд вучоных-ядзершчыкаў за мяжу. Адсутнічае культура ядзернай бяспекі на атамных электрастанцыях, цвёрдая валюта для закупкі запчастак і рамонту агрэгатаў.

І калі б былі гэтыя і шмат якія іншыя меркаванні, што прагучалі на канферэнцыі, толькі прагнознымі ці тэарэтычнымі выкладкамі. Пацвярджэнняў таму нашая змрочная, узброеная да зубоў надзённасць прыносіць хоць гаць гаці, нягледзячы на закрыты характар падобнай інфармацыі. Праўда, у меншай ступені, чым іншых уладальнікаў ядзернага кулака ў СНД, яна тычыцца Беларусі. А ці наогул наша рэспубліка — ядзерная дзяржава? Такое пытанне, пасля якога разгарнулася дыскусія, паўстала сярод беларускіх удзельнікаў сустрэчы. Галоўная матывацыя эн контра: стратэгічныя сілы, што дыслацыруюцца на Беларусі, падпарадкоўваюцца Маскве, там жа знаходзіцца і «чорны чамаданчык». Прафесар А. Загорскі з Масквы той думкі, што пытанне адначасова «і яснае, і няяснае». Беларусь падпісала Алма-Ацінскую дэкларацыю ад 21 снежня 1991 года, Пагадненне аб стратэгічных сілах ад 30 снежня 1991 года, Лісабонскі пратакол 1992 года. Дэкларацыяй аб суверэнітэце абвясціла сябе бяз'ядзернай і нейтральнай. Да таго ж толькі Расія прызнана міжнародным супольніцтвам правапераемніцай былога Саюза, а значыць, і яго стратэгічнага патэнцыялу. Але ж ён, патэнцыял, размешчаны не дзе-небудзь, а на беларускай зямлі...

...Аднак пад пералічанымі вышэй дакументамі стаяць подпісы не адной Беларусі, а таксама Расіі, Украіны і Казахстана. Расія дэ-юрэ і дэ-факта з'яўляецца ядзернай дзяржавай. Пазіцыя дзвюх апошніх падвяргалася і падвяргаецца значнай эвалюцыйнай пераацэнцы. Уплываюць на яе і спрэчкі па «раздзелу» паміж Украінай і Расіяй, і ўзаемны недавер, і небяспечная нестабільнасць. Карацей кажучы, Казахстан і Украіна не спяшаюцца развітвацца з атамнай бомбай, якую маюць у сваёй кішэні. (Ды хто цяпер з упэўненасцю возьмецца прадказаць будучыню самой Садружнасці? Ці будзе яна ў сучасных экстрэмальных абставінах гарантам ядзернай бяспекі для сваіх членаў? Такім гарантам, як паказвае гісторыя руху за нераспаўсюджванне, як было заўважана на канферэнцыі, не былі нават ініцыятары і аўтары Дагавора аб нераспаўсюджванні — ЗША і экс-СССР. Спаборнічаючы, хто першым выйграе гонку ўзбраенняў, экспартуючы іхнія кампаненты сваім ідэалагічным сатэлітам, а бывала, што адной і той жа краіне (як Іраку), менавіта яны выпусцілі тэрмаядзернага джына-монстра з бутэлькі.

Украіна імкнецца да кантролю над выкарыстаннем ядзернай зброі і забеспячэннем яе фізічнай бяспекі; гаворыць аб недапушчальнасці вывядзення такой зброі ў Расію без далейшага знішчэння; выказвае намеры ўдзельнічаць у перамовах са Злучанымі Штатамі. Казахстан дамагаецца права кантраляваць ядзерную машыну на сваёй зямлі і пакінуць яе ў сваёй уласнасці. Рэспубліка не выказала жаданне стаць суб'ектам Дагавора аб нераспаўсюджванні, як тое зрабілі Беларусь і Украіна. Безумоўна, дагавор — не панацэя. Аднак разам з магчымым заключэннем рэгіянальных пагадненняў ён — мала што не адзіны палітычны сродак, каб знайсці ўправу на ракетнага монстра, стрыножыць яго дэманічную сілу і папярэдзіць планетарную катастрофу. Ужо памянёны У. Потэр заўважыў пры абмеркаванні наступнае: «Калі Беларусь будзе добра сябе паводзіць, калі ратыфікуе адпаведныя Дагаворы аб нераспаўсюджванні, то ЗША маглі б аказаць ёй пэўную пазітыўную падтрымку, напрыклад, арганізаваць Цэнтр па аказанню дапамогі ахвярам Чарнобыля».

Відавочна, што ў цяперашняй няпростай сітуацыі кожная незалежная дзяржава СНД кіруецца перадусім асабістымі інтарэсамі і патрэбамі, сярод якіх не апошняе месца займае фарміраванне арміі, яе тэхнічнае аснашчэнне і боегатоўнасць. Разам з тым нельга не ўлічваць, што ў Беларусі ёсць добры шанц стаць першай свабоднай ад атамнай зброі дзяржавай, бяз'ядзернай зонай у цэнтры Еўропы і заканадаўцай міратворчай і дэмакратычнай палітыкі, якая адпавядае і псіхалогіі, і памяркоўнаму неагрэсіўнаму характару беларуса. Знешнепалітычныя крокі ў гэтым кірунку рэспублікай зроблены. Яна выконвае ўзятыя па пагадненнях абавязацельствы. Датэрмінова была пераведзена ў Расію тактычная ядзерная зброя. Нядаўна Беларусь падпісала са Злучанымі Штатамі пагадненні аб дэмантажы ракет стратэгічнага прызначэння і рэжыме нераспаўсюджвання.

Ішла на канферэнцыі размова і аб першай частцы таго вялікага парадокса, — «мірным атаме», аб перспектывах і мэтазгоднасці будаўніцтва беларускай АЭС. Не вельмі аптымістычна, як мне падалося, ацаніў на канферэнцыі гэтую перспектыву амерыканскі дыпламат Д. Ляонард. І справа не толькі ў псіхалагічных бар'ерах і заведамай непапулярнасці ідэі будаўніцтва сярод насельніцтва, але і ў складанасці яе тэхнічнага аспекта, адзначыў прамоўца.

Варта паўтарыцца: шмат цікавых і неадназначных пытанняў разглядалася на Беларуска-Амерыканскай канферэнцыі. З трактоўкай многіх з іх можна і трэба спрачацца. Адно зразумела: такі абмен думкамі надзвычай карысны, такія сустрэчы — да месца і часу.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ПАВЯЗУ ТРЫВОГУ І НАДЗЕЮ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У пасольстве наогул нічога не хацелі гаварыць на гэтую тэму. Нарэшце, дасталі нейкую інструкцыю, закрылі зверху і знізу старонку, толькі адзін абзац бачны, і буркнулі: «Чытайце вось гэта!»

Атмасфера скрытнасці і нават пагарды балюча абражала нашых суайчынніц.

— Мая сяброўка-бельгійка амаль штомесяц атрымлівае ліст са свайго пасольства, — з пачуццём горычы і крыўды расказвае Галіна Фрэдж. — Пытаюцца, ці не ўзніклі ў яе якія-небудзь праблемы, ці не патрэбна дапамога. Калі ласка, звяртайцеся. Падаюць тэлефоны, адрас. Я ж пражыла ў Тунісе столькі год і ніколі такога ліста з савецкага пасольства не атрымала. Аднойчы толькі з нагоды нейкага свята мне выказалі віншаванні.

Летам у сваёй вёсцы Галіне давялося назіраць выпадак, які страхам адгукнуўся ў сэрцы жанчыны. У Беразіно прыехалі бежанцы з Азербайджана, маці з дзецьмі. Дзеткі пачулі гул пасажырскага самалёта і з крыкам : «Бабуля, хавайся!» пабеглі ратавацца ва ўкрыццё. Можна ўявіць, колькі перажылі гэтыя малыя.

— А я думаю аб сваёй сям'і, — разважае Галіна Фрэдж, — каб не вярнуцца і нам сюды бежанцамі. Мы баімся «братоў мусульманаў». Бачыце, што яны нарабілі ў Алжыры. Яны хочуць мець ісламскую дзяржаву, а Туніс жа побач, і там таксама такія сілы ёсць. Таму мы жывём у пастаяннай трывозе: калі адбудзецца пераварот, то ў першую чаргу стануць выганяць іншаземцаў.

На гэты выпадак сям'я Фрэдж хацела б мець у Беларусі свой прытулак. Ці можна ім купіць тут, напрыклад, сваю кватэру? У гарадской юрыдычнай кансультацыі, куды, не адкладваючы справу на потым, адразу ж па прыездзе на радзіму пабегла Галіна Фрэдж, ёй адказалі: «Не, не можаце.» У нас пакуль існуе жалезны бар'ер — прапіска. Не прапісаны, і свой не мае ніякіх правоў на жыллё ў горадзе, а замежны суайчыннік — тым болей. Галіне Фрэдж раяць вярнуцца ў Беларусь, пажыць тут, а тады ўжо купіць кватэру ці дом за валюту. А пасля хочаш — жыві тут, хочаш — вяртайся ў сваё замежжа.

Але, не маючы свайго прыстанішча, куды вярнуцца, у каго і дзе жыць?

— Я чытала ў газеце, — гаворыць Галіна, — што беларусы тутэйшыя могуць пабудаваць вілу ў Каліфорніі, калі маюць ахвоту і грошы. Тады чаму беларусы адтуль, з-за мяжы, не могуць купіць тут хаця б маленькую кватэру?

Хоць яе дзеці з беларускіх ведаюць толькі два словы «нічога няма», Галіна Фрэдж усё ж хацела б, каб яны мелі і беларускае грамадзянства. Як гэта зрабіць? Ці маюць яны на гэта права?

Пытанне за пытаннем, адно важнейшае за другое, і вырашыць іх ні рэдакцыя, ні таварыства «Радзіма» не ў стане. Мы можам толькі звярнуць на іх увагу... Каго? Няма ж такога органа, які займаўся б штодзённа праблемамі суайчыннікаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. Праўда, ужо ходзяць павевы, што да ўрадавых колаў дайшло: патрэбы замежных беларусаў вымагаюць стварыць нешта накшталт дэпартамента па рабоце з замежнымі суайчыннікамі.

Але праблемы праблемамі, а Галіна Фрэдж з двума малодшымі дзецьмі прыляцела на лета ў Беларусь з Туніса, каб глянуць на родныя мясціны, абняць маці, супакоіць душу, бо 4 гады яна не была ўжо тут. Але палёгкі не адчула, суцяшэння не знайшла, хаця, як яна гаворыць, у Беларусі яшчэ добра. Задаю ёй пытанне «ў лоб»: што найбальней яе ўразіла? І чую ў адказ:

— Самае страшнае, канешне, — цэны. Калі мы ўсё аблічылі, атрымалася, што ў нас, у Тунісе, намнога даражэй, але ж мы і атрымліваем непараўнальна больш. У нас працуе толькі муж, але мы жывём нармальна, яго заробку хапае, каб утрымліваць сям'ю.

Другое, што мне на гэты раз кінулася ў вочы, — у вас з'явіліся жабракі, грязныя, абношаныя. Раней такога не было. І людзі змяніліся — усе злыя, раздражнёныя. Што сталася з людзьмі? Раней у іх была нейкая ўпэўненасць, цяпер яе няма.

Добра, што ў матулі на вёсцы, вядома ж, ёсць свой агарод, бо ў магазін прывозяць толькі хлеб. А чарга за ім!.. Даводзілася ўвесь час ездзіць у горад, каб запасціся такімі-сякімі прадуктамі. А са свайго вясковага магазіна бабуля прыходзіць і ўздыхае: «Зноў нічога няма!» Вось гэтыя беларускія словы і разумеюць яе тунiскія ўнукі.

— Як добра, што я прыехала толькі з малодшымі, — гаворыць Галіна. — Я магу імі яшчэ пакіраваць, яны мяне слухаюцца. А каб прыехаў і старэйшы? Яму ўжо 17 год, канчае ліцэй. Каб ён прыехаў са мной, баюся, што яго маглі б збіць з дарогі равеснікі. Гляджу, і мне страшна робіцца: у двары хлопцы яго ўзросту кураць, п'юць. Можа яны наркотыкі якія ўжываюць? Цяпер тут наўкол толькі і чуеш пра гэта. У вас горшы маральны клімат. У Тунісе дык мусульманская рэлігія стрымлівае. А ў вас, гляджу, цяпер людзі нічога не баяцца, ніякіх маральных тармазоў.

На развітанне я спытаў у Галіны Фрэдж, што павязе яна з сабой з Беразіно ў той маленькі тунiскі гарадок на мяжы з пустыняй, дзе жыве яе сям'я. Яна падумала хвіліну, журботна ўсміхнулася і адказала:

— Ад'язджаю з вялікай трывогай, але і з надзеяй на лепшае. Астролагі абяцаюць, што самы страшны будзе 1993 год, але потым наступіць лепшы час. Хацелася б, каб, як у казцы, быў шчаслівы канец. Хай на маёй Беларусі будзе спакойна.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ



Настаў 1955 год. Хадзілі чуткі, што нас звольняць, што выпусцяць на волю, што мы зноў зможам пабачыць свой родны кут, таварышаў, знаёмых, родных. Аб гэтым мы марылі праз увесь час нашага жыцця ў Сібіры.

Аднойчы ў магазіне я купіла іголкі. Калі ўзяла пачак іголак у рукі і прачытала «Rigas adatas» («Рыжскія іголкі»), то ў адно імгненне слёзы паліліся з вачэй. Я нават не паспела выйсці з лаўкі. Гэта была вестка з гораду майго юнацтва, у якім жывуць мае сябры, гораду, які блізкі майму сэрцу.

У снежні 1955 года, як і заўсёды, я сядзела за сталом і рыхтавала ўсе даныя для справаздачы за год. Увайшоў камэндант над перасяленцамі і павіншаваў мяне са звальненнем. Я здзівілася, не магла паверыць, што дачакалася такога шчасця. Паверыла толькі тады, як прачытала пастанову аб звальненні для нашай сям'і, як неправідлова вывезенай. Як я пазней даведалася, гэта была пастанова Савета Міністраў Латвійскай ССР ад 20.XI.55 года. Большай радасці напэўна ў чалавека ня бывае. Вольнасць! Той, хто ня быў у няволі, ніколі не зразумее, што такое воля.

Дома маці адразу пачала апранацца, каб хутчэй ехаць. Але адразу мы не паехалі, нягледзячы на тое, што вельмі хацелася гэта зрабіць: кінуць усё і ехаць у родны кут і там шукаць прытулак, бо свайго ўжо нічога не было. Саўгас непасрэдна быў падначалены Маскве. Не магла ж я падводзіць дырэктара, які адносіўся да перасяленцаў добра. Трэба было зрабіць гадавую справаздачу. Некалькі дзён я сядзела ад самага рання і да поўначы. Нарэшце ўсё было зроблена. Новы год прыйшлося яшчэ сустракаць у саўгасе, але ўжо настрой быў лепшы.

12-га студзеня 1956 года я вылезла з цягніка на станцыі Індра. Зайшла на кватэру, дзе жыла раней, дамовілася з гаспадыняй і пачала там жыць, 16-га студзеня я ўжо працавала ў Індраўскай сярэдняй школе. Былыя вучні маёй 10 клясы, калі даведаліся, што я вярнулася з Сібіры, амаль усе прыехалі, каб сустрэцца са мной. З некаторымі з іх я ўвесь час перапісвалася, такім чынам яны ўсе ведалі аба мне, а я ведала пра ўсіх іх.

Працавала ў школе я чэсна. Усе абавязкі выконвала нядрэнна, за што атрымлівала граматы, пахвальныя лісты, але ўжо таго захаплення да працы, той бадзёрасці, якая была раней, не было...

Крыўду, хоць і незаслужаную, атрымаць ад чужынцаў— гэта яшчэ паўбяды. Здольнасці, энергіі і настрою чалавек не губляе. А вось панесці крыўду ад сваіх, ды яшчэ незаслужаную... Такая крыўда з цягам часу прытупляецца, бляжне, час залечвае раны, але... нічога не забываецца.

Мой жа настрой не адпавядаў працы, і я вясной 1968 года выйшла на пэнсію. Адпачываю. Жыццярадаснасцю больш не напаўняецца маё сэрца. А час няспынна ідзе. За досыць значны адрэзак часу з майго пакалення амаль нікога не засталося. Новае пакаленне злілося ў пушчу агульнай вялікай савецкай сям'і. Мову беларускую яны ня ведаюць, ды і іх бацькі таксама ўжо забыліся, а дзяды могуць паведаць толькі свае ўспаміны.

Мне таксама з 1938 года амаль не прыходзілася гаварыць па-беларуску. Таму, як гэта ні сорамна, але прыходзіцца прызнацца, што мова беларуская прызабылася. Раблю ў пісьме памылкі, ды і слоў ужо не хапае для выказвання думак. Граматыкі з 1925 года не бачыла. Праўда, кнігі на беларускай мове часамі чытаю. Вось так і жыву ў цішыні, паступова адыходзячы ў краіну забыцця.

**Эмілія Данатаўна.**
**КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ**

Індра, 1981—1983 гг.

**НА ЗДЫМКАХ: С. САХАРАЎ, Вольга Фёдараўна, Галіна і Ірына; удзельнікі спектакля «Раскіданае гняздо» па п'есе Янкі Купалы.**





## У ДАДАТАК ДА «ЖЫЦЦЯПІСУ»

**Ішлі гады майго творчага супрацоўніцтва з Эміліяй Данатаўнай Казак-Казакевіч. Сустрэчы ў Індры перамяжоўваліся перапіскаю. Удакладняліся дэталі яе ўспамінаў, расшыфроўваліся подпісы пад даўнімі фотаздымкамі, згадваліся новыя і новыя імёны шчырых працаўнікоў на не вельмі ўраджайнай беларускай ніве. Думаецца, што і радкі яе пісем будуць мець цікавасць для чытача, які хоча як мага больш даведацца пра Беларускае Наддзвінне — яшчэ адзін запаветны куточак нашых этнічных прастораў. Асаблівай падзякі заслугоўвае Э. Д. Казак-Казакевіч за яе фальклорныя запісы, якія сведчаць аб жывучасці і разлегласці нашага Слова. Падборку прыказак і прымавак, якія «прыгадала» Эмілія Данатаўна, яна мне прыслала ў снежні 1982 года. Хай усе яе матэрыялы з Індры паслужаць своеасаблівым помнікам беларускай прысутнасці ў суседняй Латвіі.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

Эмілія КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ

# «ПА ЦЯРНІСТАЙ ПУЦІНЕ»

**16.03.81 г.**

...Аб латышска-беларускіх сувязях многае можна даведацца з кнігі Паўліны Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця (1974 г.). Паўліна Вінцэнтаўна з самага пачатку беларускага руху ў Латвіі была выкладчыцай мовы і спеваў у гімназіі, яна падрыхтавала пастаноўку «Паўлінкі».

Высылаю таксама і фота ўдзельнікаў пастаноўкі п'есы Я. Купалы «Раскіданае гняздо». Паніча іграў сын дырэктара гімназіі Дзмітрый Сахараў. Дзяўчынка ў белай сукенцы — Вера Слосман. Пасля гімназіі яна скончыла латышскі універсітэт. У 1940 годзе працавала ў Рызе пракурорам. У часе вайны была ў партызанах, адважылася прыехаць у Рыгу. Яе апазналі і выдалі. Замучана ў Рыжскай турме.

Вы згадваеце Пігулеўскага. Уладзімір Васільевіч быў вучыцелем у Люцынскай гімназіі, пасля яе закрыцця — кіраўніком Аддзелу пры Міністэрстве асветы. Актыўным, на мой погляд, ён ніколі не быў. За лёс беларусаў не вельмі хваляваўся.

Шчырым беларусам, добрым настаўнікам быў Андрэй Паўлавіч Якубецкі. У ім змясцілася ўсё добрае і прыгожае, што можа быць у чалавеку. Заўсёды быў энергічны, актыўны. Дзякуючы яму, «Дудку беларускую», «Энеіду навыварат», «Тараса на Парнасе» мы ведалі на памяць яшчэ ў пачатковай школе. Вывучылі многа вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі...

15 траўня 1934 года ўлада ў Латвіі перайшла ў рукі прэзідэнта К. Ульманіса. Пачалі зачыняцца школы нацыянальных меншасцяў. Так закончылася праца беларусаў у Латвіі. Ну а далей полымя вайны раскідала людзей па ўсіх кутках зямной кулі. Большасць з іх ужо спяць вечным сном. Тая ж маленькая жменька беларусаў з тых даўніх часоў, якая засталася ў жывых, ужо не мае сілы да працы, не мае творчага энтузіязму, энергіі. Школ беларускіх у Латвіі няма...

**26.03.81.**

Вельмі прыемна, што запісы фальклору Сяргея Пятровіча Сахарава знайшлі сваё адпаведнае мейсца. Некалькі слоў пра яго сучаснікаў. Мечыслаў Аляксандравіч Юркевіч памёр восеню 1980 года ў Даэдзе. 10 сакавіка 1981 года памёр былы вучыцель беларускай гімназіі ў Дзвінску Відаўскі Уладзімір Юльянавіч. Ён жыў у Рызе.

Трошкі пра наш час. Пры Ульманісе беларусам жылося нялёгка, гэта праўда. Атрымаць працу па спецыяльнасці ці ўладкавацца ва ўстанову было цяжка. Тым больш, што многія з беларусаў не ведалі добра латышскай мовы. Нават марку купіць — і то трэба было звяртацца па-латышску, хоць начальнікам пошты быў беларус. Толькі пасля працы ён мог быць самім сабой. Улады хацелі аблатышыць беларусаў. Застаўлялі мяняць прозвішчы на латышскія. Такая прапанова была зроблена і мне. Але калі я сказала, што не хачу, каб латышы лічылі мяне купленай, а беларусы—прадажнай, то надалей мяне не чапалі. Нагул беларусаў латышы лічылі камуністамі. Што ж, нешта тут было... Таму ў 1940 годзе кадраў савецкіх не трэба было шукаць. Усе беларусы знайшлі сабе мейсца ў жыцці і папоўнілі кадры, якіх на той час не хапала.

З тых, хто вучыўся ў нашай гімназіі, не ведаю ніводнага, які б звярнуў з правідловага шляху. Нават тыя, каго немцы мабілізавалі са школьнае лаўкі, перайшлі потым з нямецкай арміі ў Чырвоную Армію, пасля вайны вярнуліся давучвацца, толькі ўжо ў гімназію рускую. Люль Леапольд Восіпавіч стаў працаваць у Рызе доктарам, а Урбановіч Эдмунд Браніслававіч — рэнтгенолагам у Краславе.

Інспектар беларускіх школ (пры акупацыі) Махноўскі і мастак Міpановіч Пётра выехалі за граніцу, дзе і памерлі на чужбіне. Людзі яны былі добрыя, шчырыя беларусы. Многім дапамаглі вырвацца з нямецкай няволі. У тым ліку і мне, і старэйшай сястры Слосман — Гэлене. Жыццё Любы Булаўскай было цяжкім. Яна працавала ў Рыжскай беларускай пачатковай школе, якая ўтрымлівалася на сродкі Таарыства вучыцялёў.

За некалькі дзён да вайны была арганізавана экскурсія беларускіх вучыцялёў у Маскву. Да Масквы яны не даехалі. Іх высадзілі. Мужчыны пайшлі ваяваць, а Л. Булаўская і Г. Нікіфароўская дабраліся да сталіцы, пайшлі ў ваенкамат. Г. Нікіфароўская разам з Чырвонай Арміяй вярнулася ў Рыгу і расказала мне пры сустрэчы, што Л. Булаўская была закінута з дыверсійнай групай у тыл ворага і там загінула. Была знішчана ўся іх група.

Загінуў у партызанах і Баляслаў Слосман. На вайне забіты Канюшэўскі Станіслаў, Блажэвіч Леанід. Меў высокія ўзнагароды. У Індры адна з галоўных вуліц была названа імем Л. А. Блажэвіча.

Што датычыцца майго асабістага лёсу, то ён падобны да лёсу многіх і многіх беларусаў майго пакалення, якія ішлі па цярністай пуціне бурлівага жыцця.

Актыўны ўдзел у барацьбе з фашызмам на Люцыншчыне і ў Зілупэ прымаў Казімір Мяжэцкі. Ён скончыў Рыжскі універсітэт. Там трапіў у рукі немцаў. Забіты на вайне сын вучыцеля Дзергача Віктара з вёскі Жакелі Краслаўскага раёна і многа іншых беларусаў.

Частку матар'ялу пра латышска-беларускія сувязі Гусарэвіч Сабіна Дамінікаўна даўно адаслала ў Мінск Арсеню Лісу па яго просьбе. Адаслала А. Лісу і альбом Гусарэвіча Уладзіміра «Беларускі тэатр у Рызе».

У свой час пісаў вершы настаўнік Вайвадзіш Эдуард Людвікавіч. У яго і зараз яны захаваліся.[1]

**Працяг. Пачатак у №№ 40—44.**

[1] Падборка вершаў Э. Вайвадзіша друкавалася ў газеце «Голас Радзімы».

# ЗАЙГРАЙ, ЖАЛЕЕЧКА, ЗАЙГРАЙ...





**Вялікая цікавасць людзей да музычнай і песеннай спадчыны нашага краю. Усё новыя і новыя фальклорныя калектывы вяртаюць нам забытыя мелодыі. Але для гэтага патрэбны і народныя музычныя інструменты. Вось тут без таленавітых рук майстроў проста не абысціся.**

**Адзін з іх — жыхар горада Бяроза Брэсцкай вобласці Якаў ШАЎЧУК (на здымку). І скрыпку можа ён зладзіць, і дудку, і жалейку, і многія іншыя музычныя інструменты.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

*СПАДЧЫНА*

# ВІЦЕБСКАЕ СТАРАЖЫТНАСХОВІШЧА

Словамі, вынесенымі ў загаловак артыкула, амаль сто гадоў назад называлі царкоўна-археалагічны музей, што існаваў у губернскім Віцебску. Такія музеі на тэрыторыі Беларусі былі створаны ва ўсіх епархіяльных гарадах. І першы з іх з'явіўся ў Віцебску ў 1893 годзе. З ініцыятывай яго стварэння выступіў інспектар народных вучылішчаў Віцебскай губерні вядомы этнограф Еўдакім Раманаў. Архіепіскапу Полацкаму і Віцебскаму Антаніну яшчэ ў чэрвені 1892 года ён накіраваў спецыяльную запіску, у якой выказаў думку аб неабходнасці збірання па цэрквах епархіі помнікаў царкоўнай даўніны, якія ўжо не ўжываліся падчас набажэнстваў, аднак уяўлялі «не только местный, но и общий церковно-археологический интерес». Мелася на ўвазе старажытнае царкоўнае адзенне, начынне, абразы, старадрукі і рукапісныя кнігі, званы, старадаўнія планы ўжо не існуючых храмаў — усё тое, што, на думку Раманава, заслугоўвала «тщательного охранения от уничтожения временем і неопытностью лиц, ближайшему наблюдению которых они были доверены».

Запіска Раманава была ўхвалена архіпастырам, які на чарговым сходзе Віцебскага Свята-Уладзімірскага Брацтва прапанаваў размясціць новы музей у адным з пустых пакояў архірэйскага дома. Арганізацыяй старажытнасховішча апроч Раманава даручана было заняцца выкладчыку гімназіі, вядомаму мясцоваму краязнаўцу А. Сапунову і свяшчэнніку Мікалаеўскага кафедральнага сабора В. Гаворскаму.

Адкрыццё музея адбылося 2 верасня 1893 года. Размясцілі яго ў пакоі плошчай 10,5 х 8,5 метра архірэйскага дома. Першыя экспанаты для музея былі сабраны Раманавым і Сапуновым у часе наведвання віцебскіх гарадскіх цэркваў: Благавешчанскай, Іллінскай, Петрапаўлаўскай і цэркваў Маркава манастыра. На жаль, да гэтага часу ўжо большасць царкоўных сховішчаў «пачысціў» ахвотнік даўніны, мінскі памешчык Татур. Заручыўшыся падтрымкаю мясцовых уладаў, за кароткі тэрмін ён літаральна абрабаваў усе тутэйшыя цэрквы. Таму пры наведванні храмаў на свае запыты Сапунову і Раманаву ў большасці выпадкаў даводзілася чуць: «Узяў Татур...»

У студзені 1895 года Раманаў вымушаны быў ад'ехаць з Віцебска на новае месца службы ў Гродзенскую губерню. Клопаты па збіранню экспанатаў для музея цалкам ляглі на плечы Аляксея Сапунова. У хуткім часе яму ў дапамогу членамі камісіі па загадванню старажытнасховішчам былі абраны выкладчык духоўнай семінарыі Д. Даўгяла і настаўнік Віцебскай мужчынскай гімназіі М. Нікіфароўскі, абодва знакамітыя руплíўцы мясцовай даўніны. Яны заняліся апісаннем ужо сабраных экспанатаў і складаннем каталога. У жніўні 1897 года Сапуноў адмовіўся ад загадвання старажытнасховішчам, бо з 1 верасня быў прызначаны на новую пасаду — памочніка інспектара студэнтаў Маскоўскага універсітэта — і ад'ехаў з Віцебска на часовае жыхарства ў Маскву. На пасаду загадчыка музея быў прызначаны настаўнік мужчынскай гімназіі І. Сабін-Гус.

4 кастрычніка 1897 года А. Сапуноў «за особую любовь к местным древностям» быў абраны ганаровым членам Віцебскага царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча. Гэта была праява ўдзячнасці і адначасова прызнанне той ролі, якую краязнаўца адыграў у стварэнні музея. Яго асабісты ўклад у фарміраванне калекцый акрэсліваўся ўжо першым уступным ахвяраваннем з некалькіх дзесяткаў прадметаў, сярод якіх былі старадаўняя пергаментная грамата, 22 фотаздымкі цэркваў Полацкай епархіі і іншыя рэчы. Дзякуючы намаганням Сапунова, сховішча прыдбала калекцыю з 10 партрэтаў уніяцкіх архібіскупаў і мітрапалітаў. Гэтыя партрэты, напісаныя алеем, некалі віселі ў сталовай зале Віцебскай духоўнай семінарыі, якая размяшчалася ў былых базыльянскіх мурах. Адным з правяраючых была зроблена заўвага семінарскаму кіраўніцтву, у выніку чаго партрэты перамясцілі ў бібліятэку. Наступнаму правяраючаму і гэта здалося недапушчальным, пасля чаго старыя палотны ўвогуле выкінулі ў хлеў. Там іх і знайшоў Сапуноў, адабраў ацалелыя і перадаў у царкоўна-археалагічны музей. Увогуле адмоўна ставячыся да уніі, краязнаўца бачыў у партрэтах уніяцкіх іерархаў перш за ўсё помнікі даўніны, якія трэба было ўратаваць і захаваць для нашчадкаў.

Адной з каштоўнасцей музея з'яўляліся рукапісы. Тут у асобнай скрыні захоўваўся архіў Полацкай духоўнай кансісторыі, разабраны Сапуновым з дапамогай архіварыуса Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў М. Вяроўкіна. Праўда, у нядбайнасці ў адносінах да царкоўнай даўніны можна было абвінавачваць не толькі тагачасныя свецкія ўлады: аднойчы кансісторыя запатрабавала дакументы архіва да сябе, а калі яны зноў былі вернуты ў музей, то вязкі з асобнымі справамі аказаліся папсаванымі, а дакументы пераблытанымі. «Чтобы снова привести эти документы в порядок, — пісаў Сапуноў у 1913 годзе, — потребуется много времени и труда, и сделает это, конечно, не консистория».

Росквіт Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея прыпадае на першае дзесяцігоддзе яго існавання. У гэты час ён асабліва актыўна папаўняўся новымі матэрыяламі, чаму спрыялі афіцыйныя распараджэнні епархіяльных уладаў. Так, яшчэ ў кастрычніку 1893 года епіскап Полацкі і Віцебскі звярнуўся да настаяцеляў усіх цэркваў Віцебска з прадпісаннем «О передаче не употребляющихся при богослужении и имеющих церковно-археологическую ценность предметов в Витебский церковно-археологический музей». Да таго ж: члены камісіі па загадванню музеем самі актыўна праводзілі агляд маёмасці цэркваў і адбор экспанатаў як у самім Віцебску, так і за яго межамі. Напрыклад, у 1898 годзе Д. Даўгяла агледзеў 17 цэркваў Лепельскага павета, а М. Нікіфароўскі — 4 царквы і 3 капліцы ў Гарадоцкім павеце. Сумесна гэтыя краязнаўцы даследавалі тры храмы ў Віцебску, а таксама зрабілі апісанне Нікольскай царквы ў мястэчку Бешанковічы. Вынікі апошняй працы былі надрукаваны спачатку ў «Полоцких Епархиальных Ведомостях», а пазней — у выглядзе асобнай брашуры. Усе абразы з іканастаса Нікольскай царквы былі перавезены ў музей.

З самага пачатку свайго існавання музей знаходзіўся ў падпарадкаванні Віцебскага епархіяльнага Свята-Уладзімірскага Брацтва, са скарбонкі якога пакрываліся ўсе яго фінансавыя выдаткі. У кастрычніку 1897 года пры Брацтве быў створаны асобны камітэт для царкоўна-гістарычнага і статыстычнага апісання цэркваў і прыходаў Полацкай епархіі. У склад камітэта ўвайшлі таксама Даўгяла і Нікіфароўскі. Згодна загаду кансісторыі, камітэт разаслаў ва ўсе цэрквы спецыяльныя анкеты, пытанні якіх тычыліся не толькі сучаснага стану храмаў, але і іх гісторыі, засяроджвалі ўвагу святароў на помніках мясцовай даўніны. К канцу 1899 года камітэт меў ужо 278 апісанняў цэркваў, рэдагаваў іх і рыхтаваў да друку. На жаль, выдадзены яны так і не былі.

На пачатку XX стагоддзя Віцебскі царкоўна- археалагічны музей атрымаў новыя экспазіцыйныя плошчы і ўжо размяшчаўся ў трох невялікіх пакоях над дамавой царквой архірэйскага дома, куды меўся асобны ўваход. Аднак актыўны збор экспанатаў у гэты час ужо перапыніўся. Адбылося гэта таму, што ў музеі аказалася сканцэнтраваным шмат уніяцкіх царкоўных рэчаў, з-за чаго ён хутка страціў гарачую падтрымку праваслаўнага епархіяльнага кіраўніцтва і, па трапнай заўвазе краязнаўцы П. Красавіцкага, з'яўляўся «только терпимым, в силу раз допущенной и уже непоправимой ошибки, злом, только обузой, отнимающей лишнее помещение у недостаточно просторного

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## З'ЕЗД МАСТАКОЎ

22 кастрычніка ў Мінску ў былым Доме палітасветы адкрыўся чатырнаццаты з'езд Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь. З-за адсутнасці кворуму (амаль з 850 запрошаных прыйшло толькі 500) адкрыццё ўрачыстай падзеі затрымалася амаль на гадзіну. Цяжка сказаць, што было таму віной: вельмі дрэннае ў гэты дзень надвор'е ці нявер'е мастакоў у здольнасць творчай арганізацыі вырашыць іх праблемы.

Аднак тое, што з'езд усё ж такі вырашылі адкрыць, напэўна, сведчыць, што гэта не было нечаканасцю і не мела прынцыповага значэння ні для кіраўніцтва Саюза мастакоў, ні для беларускага мастацтва.

Інтарэсы творчай інтэлігенцыі ўсё больш настойліва са сферы духоўнай перамяшчаюцца ў сферу матэрыяльную. Ды і як жа інакш, калі аўтарскае ўзнагароджанне мастакоў Міністэрства культуры павялічыла ў пяць разоў, тады як цэны на пэндзлі, фарбы, палатно і іншыя матэрыялы за гэты ж час ўзраслі ў сотні разоў. Калі дадаць сюды падаткі, якія з'ядаюць нават тое, што ўсё ж такі ўдалося зарабіць, становіцца зразумелым, чаму мастакі ў лепшых традыцыях апошняга часу назвалі сябе самай неабароненай часткай грамадства. Аднак, як заўважыў намеснік міністра культуры У. Рылатка, «як бы цяжка ні было нашаму грамадству, а тым не менш, сёння ідзе працэс адраджэння нашай культуры». Заўвага слушная і прыемная. Што ж датычыцца лёсу Саюза мастакоў, то чамусьці ўспомніліся словы класіка, які сцвярджаў: для таго каб упэўніцца ў тым, што Дастаеўскі—пісьменнік, зусім не абавязкова патрабаваць у яго пасведчанне творчага саюза...

**В. ЧАРКАСАВА.**



**З трохтыднёвай паездкі па Германіі вярнуўся аркестр Беларускага музычнага ліцэя пры Акадэміі музыкі. Гастролі юных выканаўцаў праходзілі паспяхова. Залы былі поўныя, а мясцовая прэса перыядычна давала пахвальныя рэцэнзіі на выступленні беларускіх дзяцей. Калі ж віяланчэлістцы Ганне Паўлавай запатрабавалася медыцынская дапамога, аказана яна была ў лепшай клініцы гарадка Гютэрсло.**

**На жаль, без накладак не абышлося. З-за юрыдычнай некампетэнтнасці тых, хто падпісваў дагавор аб гастролях, аркестранты апынуліся ў складанай фінансавай сітуацыі. Праўда, яны не разгубіліся і зарабілі выступленнямі на вуліцах і плошчах нямецкіх гарадкоў. Скрыпкі, віяланчэлі і іншыя музычныя інструменты гучалі бездакорна, добразычлівыя слухачы былі шчодрыя на ахвяраванні. Але ці варта надалей ставіць дзяцей у такую сітуацыю!**

**НА ЗДЫМКУ: вулічны канцэрт.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

СПАДЧЫНА

# ВІЦЕБСКАЕ СТАРАЖЫТНАСХОВІШЧА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

и без того архиерейского дома». «Крамольная» тэндэнцыя збірання рэчаў уніяцкага ўжытку выразна выявілася ўжо ў першыя гады існавання музея. У кароткім апісанні збору старажытнасховішча за 1896 год чытаем наступнае: «Святых икон на стенах — 5, складней и икон на металле—2, деревянных статуй и писаных изображений, чуждых православной церкви, — 14». Каментарыі, як кажуць, тут непатрэбныя. У музеі нават захоўваўся «образ Иосафата Кунцевича, рисованный масляными красками на холсте». Вядома ж, большасць абразоў XVII—XVIII стагоддзяў, перавезеная з розных прыходскіх цэркваў у Віцебск, таксама была уніяцкай.

Як адзначалася ў справаздачы, у 1910 тодзе «древлехранилище обогатилось очень незначительным количеством предметов. (...) Музей нуждается в пополнении утварью: многие предметы подвергаются порче потому, что нет надлежащих витрин». Памяшканні музея ўзімку не ацяпляліся, для наведвальнікаў яго дзверы адчыняліся толькі на адну гадзіну раз у тыдзень. За год музей наведвала каля 300 чалавек.

Пасля рэвалюцыі зборы царкоўнаархеалагічнага старажытнасховішча былі перададзены ў 1919 годзе Віцебскаму губернскаму музею, які пастановай СНК БССР у 1924 годзе быўператвораны ў Віцебскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага музея (зараз — Віцебскі абласны краязнаўчы музей).

На жаль, цэльнасць збору старажытнасховішча ў хуткім часе была парушана: частку экспанатаў перавезлі ў Дзяржмузей у Мінск. Вартае шкадавання і тое, што мы не маем сёння поўнага пераліку прадметаў, якія захоўваліся ў музеі. Яго каталог быў выдадзены толькі аднойчы — у 1899 годзе — і ахопліваў паступленні, зробленыя да лістапада 1897 года, пасля чаго збор яшчэ неаднаразова папаўняўся. Праўда, спіс новых паступленняў друкаваўся на старонках «Полоцких Епархиальных ведомостей», аднак цэласнага ўяўлення аб асобных калекцыях музея з гэтых паведамленняў і раскіданых па выданні звестак атрымаць цяжка. Вядома, што ў 1905 годзе тут налічвалася 1 247 экспанатаў, сярод якіх было шмат вельмі каштоўных для нашай гісторыі і культуры рэчаў. Толькі з самай старажытнай у Віцебску Благавешчанскай царквы, пабудаванай у XII стагоддзі, тут захоўвалася Евангелле XVI стагоддзя, а таксама некалькі зборнікаў малітоўных спеваў, занатаваных спосабам старажытнага крукавага нотнага пісьма. Сярод прадметаў нецаркоўнага ўжытку варта было б адзначыць калекцыю манет, медалёў, фотаздымкаў; сярод рэчаў народнага мастацтва — некалькі дзесяткаў драўляных форм для вырабу крашаніны.

Большасць рэчаў былога старажытнасховішча сёння знаходзіцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, аднак пэўная частка іх застаецца рассыпанай па свеце, лёс некаторых увогуле невядомы. У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі зараз захоўваюцца 6 цудоўных абразоў сярэдзіны XVIII стагоддзя, якія паходзяць з вёскі Латыгава Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Усе яны былі выкананы мясцовым майстрам і першапачаткова належалі Віцебскаму старажытнасховішчу, куды былі перавезены ў 1898 годзе пасля абследавання Латыгаўскай царквы М. Нікіфароўскім. Паводле тагачаснага вопісу, з царквы ў музей было перададзена ўсяго 19 абразоў з іканастаса, царскія вароты, а таксама розныя прадметы царкоўнага ўжытку «униатской формы». Далейшы лёс гэтай маленькай калекцыі ў пэўнай ступені адлюстроўвае лёс большасці экспанатаў са збору старажытнасховішча. У хуткім часе пасля рэвалюцыі латыгаўскія абразы былі перавезены ў Мінск, аднак у калекцыі Белдзяржмузея іх аказалася ўжо толькі 14 адзінак. Абразы вывучаў мастацтвазнаўца М. Шчакаціхін, частка з іх экспанавалася ў 1926 годзе на 1-й Усебеларускай мастацкай выставе. Да нашага часу ў калекцыі мастацкага музея захавалася толькі 6 абразоў, яшчэ адна работа знаходзіцца ў Казанскай царкве былога Маркава манастыра ў Віцебску, астатнія пакуль адшукаць не ўдалося. Куды трапілі іншыя рэчы з Латыгаўскай царквы, сёння таксама невядома.

Такім чынам, Віцебскае старажытнасховішча мы можам разглядаць як музей, у якім была сабрана вялікая калекцыя твораў сакральнага мастацтва уніяцкага веравызнання. Канешне, аднавіць гэты збор зараз ужо немагчыма. Аднак неабходнасць мець аналагічны музей, думаецца, існуе і сёння. Бо што ведае зараз беларус пра Унію? У большасці выпадкаў толькі яе палітызаваную гісторыю. А між тым, асэнсаванне культурнай традыцыі, якую спарадзіла прыняцце Уніі на беларускіх землях, дапаможа нам усім хутчэй аднавіць утраеную дарогу да Храма — Храма нашае беларускае культуры.

Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.



НА ЗДЫМКУ: латыгаўскі майстар. «Нараджэнне Хрыстова». 1746 год. Абраз са збору Віцебскага старажытнасховішча.



Зусім не чакалі амерыканцы Вольга і Тэо Райс сустрэць у Брэсце... Джорджа Буша. Вядома, з прыездам у горад над Бугам прывітаў іх не сам прэзідэнт Злучаных Штатаў, але чалавек, па сцвярджэнню многіх, надзіва да яго падобны — мясцовы жыхар пенсіянер Аляксандр БАРАБОЦЯ (на здымку). На знешняе падабенства яго з прэзідэнтам адразу ж звярнулі ўвагу і амерыканскія госці, якія прыехалі на радзіму Вольгі, каб стварыць тут англійскі культурны цэнтр.

Фота Э. КАБЯКА.

СПОРТ

## ФУТБОЛ

Падыходзіць да канца чэмпіянат Беларусі па футболу. Перамога мінскага «Дынама» тут не выклікае ніякіх сумненняў. Сталічны клуб на набраных ачках намнога апярэджвае іншыя каманды.

У перапынку першынства рэспублікі адбыўся таварыскі матч Беларусь — Украіна. Ён завяршыўся ўнічыю — 1:1.

## ХАКЕЙ

Эх, сабраць бы ўсіх разам!.. Пра гэта марыць хакейны балельшчык Беларусі. Бо пакуль што галоўная каманда нашай рэспублікі «Дынама» няўдала выступае ў розыгрышы Кубка МХЛ. Затое сапернікі, выхадцы з Беларусі, вельмі добра гуляюць у замежных клубах: Фёдараў, Мядзведзеў, Фацікаў, Давідаў, Баршчэўскі — гэты спіс можна прадоўжыць. А выступаюць яны і ў Канадзе, і ў Польшчы, і ў іншых замежных краінах.

## ШАХМАТЫ

...Карпаў, Ціман, Ананд, Карчны — і яшчэ добры тузін знакамітых шахматыстаў не змаглі дабрацца нават да паўфіналу міжнароднага турніру ў Цілбургу. Затое вельмі добра згулялі мінчанін Барыс Гельфанд і... ізраільцянін Ілья Смірын. Так, зараз віцябчанін Ілья Смірын жыве ў Ізраілі і выступае за гэту краіну.

Гросмайстар з Мінска Барыс Гельфанд выйшаў у фінал, дзе сустракаўся з англічанінам Майклам Адамсам, Ілья Смірын дайшоў да паўфіналу.

## ВАЛЕЙБОЛ

У адборачных спаборніцтвах першынства Еўропы беларускія валейбалісты ўступілі спартсменам Латвіі—3:0. Жаночая ж каманда рэспублікі з такім лікам перамагла зборную Эстоніі.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

ХОЛКОВСКАЯ Нина Ефремовна разыскивает дядю КРОТА Ивана Наумовича. Он родился в деревне Рябунь Вилейского района. Выехал в США предположительно до первой мировой войны. Работал сталеваром. Был женат на Ирине КРОТ, родившейся в этой же деревне. У них было двое детей, Николай и Мария. Известно, что Николай — участник второй мировой войны. Всех, кому что-либо известно о семье И. КРОТА, просим сообщить в нашу редакцию.

БІТАВА (СУШКО) Галіна Міхайлаўна шукае свайго бацьку СУШКО Міхаіла Палікарпавіча 1914 года нараджэння, які да 1944 года жыў у вёсцы Барсукі Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці.

Зусім нядаўна стала вядома, што ён жыве ў горадзе Брысбен у Аўстраліі, наведвае праваслаўную царкву.

Прашу бацьку адгукнуцца на маю аб'яву альбо буду ўдзячная таму, хто можа штонебудзь паведаміць пра яго на адрас: Рэспубліка Беларусь, 222461, Мінская вобл., Вілейскі раён, пас. Партызанскі.
БІТАВАЙ Галіне Міхайлаўне.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1969.
Падпісана да друку 30.10.1992.